Гродна
№9 (444),
1 мая 2016

# Слова Жыцця



www.slowo.grodnensis.by

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ


# ПЕРШАЯ СВЯТАЯ КАМУНІЯ – НАЙВАЖНЕЙШЫ ХРЫСТОС

ПАРАДЫ ДЛЯ БАЦЬКОЎ



Урачыстасць Першай святой Камуніі ў катэдральнай базіліцы св. Францішка Ксаверыя ў Гродне

*Хутка ў касцёлах Гродзенскай дыяцэзіі пачнецца час, калі дзеці будуць прыступаць да Першай святой Камуніі. Дзяўчаты ў белых сукенках і хлопцы ў белых альбах стануць сведкамі вялікага цуду і прымуць Цела Хрыста. "Але каб годна перажыць гэтую ўрачыстасць, яны павінны адпаведна падрыхтавацца", – адзначае сястра Марлена ISSM і адказвае на пытанні, звязаныя з прыняццем аднаго з найважнейшых сакрамантаў.*

● працяг на с. 3

# ПАД ТВАЮ АБАРОНУ

*У каталіцкім Касцёле многія месяцы ў годзе прысвечаны асобным набажэнствам. У пачатку мая цяжка не ўзгадаць, што распачынаецца цудоўная пара, прысвечаная Маці Божай. Ля ног Найсвяцейшай Панны Марыі збіраюцца дзеці і дарослыя, молячыся праз Яе заступніцтва, прысвячаючы Ёй свае сем'і, просячы, каб узяла пад сваю апеку.*

Галоўнай часткай маёвых набажэнстваў з'яўляецца Ларэтанская літанія, калі мы ўсхваляем Маці Божую рознымі тытуламі, просячы, каб Яна была для нас найлепшай Маці. Але існуюць і іншыя спосабы ўшанавання Марыі Панны, якія дазваляюць з усім сэрцам аддацца ў палон Яе любові.

● працяг на с. 4

## Каляндар падзей

**1 мая**
Распачацце маёвых набажэнстваў. Заахвочваем маліцца ў касцёлах, капліцах, каля крыжоў і дома.

**3 мая**
Дзень імянін кс. б-па Аляксандра Кашкевіча. Молімся за нашага пастыра.

**5 мая**
Урачыстасць Унебаўшэсця Пана Езуса.

**6 мая**
Свята свсв. Філіпа і Якуба. Першы дзень навэнны перад урачыстасцю Спаслання Святога Духа.

**14 мая**
Свята св. Мацея.

**15 мая**
Урачыстасць Спаслання Святога Духа. Заканчэнне велікоднага перыяду.

## Запрашаем!

**Праграмы каталіцкай рэдакцыі:**

**"Голас Евангелля"**
Каталіцкая праграма на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё.
**Кожную нядзелю ў 8.00**
запрашаем разважаць над Евангеллем і дзяліцца Божым словам.
**Гродна 96,9 FM; Свіслач 100.8 FM**

**"Сімвал веры"**
Каталіцкая праграма аб рэлігійным жыцці Гродзенскай дыяцэзіі выходзіць пры супрацоўніцтве Каталіцкай тэлестудыі Гродзенскай дыяцэзіі і дзяржаўнага тэлебачання на тэлеканале "Беларусь-4"
**ў 1-ы аўторак месяца ў 19.45, паўтор – у сераду ў 9.00.**

**Навіны з Ватыкана па-беларуску**

**Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM –** у Гродна, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі;
**на 99,2 FM –** у Брэсце і побач з ім.
**Штодзённа ў 20.00**
**на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.**
**Штодзённа у 20.00 і 6.20** на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace".
**Кожную нядзелю ў 8.55** на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё.
У інтэрнэце на старонцы **vatican.by.**

## Ружанцовыя інтэнцыі:

**Май**

Аб Божай апецы для духавенства, манаскіх сёстраў і вернікаў Гродзенскай дыяцэзіі.

Аб еднасці дыяцэзіяльнага Касцёла з паўсюдным Касцёлам, а таксама аб правільным разуменні святарамі і вернікамі яго місіі ў сучасным свеце.

## Інтэрнэт-апытанне
www.grodnensis.by

**Як часта Вы моліцеся Ларэтанскай літаніяй?**

- кожны дзень
- кожную суботу
- калі ксёндз задае такую пакуту на спаведзі
- у маі
- час ад часу
- я не ведаю такой малітвы
- цяжка сказаць

выкажыся 

**Слаўце майскія лугі, горы, зялёныя даліны...**

# РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

**VI ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Ян 14, 23–29**

Езус сказаў сваім вучням: "Калі хто любіць Мяне, той захоўвае слова Маё, і палюбіць таго Айцец Мой, і прыйдзем да яго, і зробім жыллё ў яго. Хто не любіць Мяне, той не захоўвае слоў Маіх. А слова, якое вы чуеце, не Маё, але Айца, які паслаў Мяне. Я сказаў вам гэта, будучы з вамі. А Суцяшальнік, Дух Святы, якога Айцец пашле ў імя Маё, навучыць вас усяму і нагадае вам пра ўсё, што Я сказаў вам. Спакой пакідаю вам, спакой Мой даю вам. Не так, як дае свет, Я вам даю. Няхай не трывожыцца сэрца вашае і не баіцца. Вы чулі, што Я сказаў вам: адыходжу і прыйду да вас. Калі б вы Мяне любілі, то радаваліся б, што Я іду да Айца, бо Айцец Мой большы за Мяне. І цяпер Я сказаў вам, перш чым гэта станецца, каб вы паверылі, калі гэта станецца".

## НАДЗЕЙНАСЦЬ ВЕРЫ І СУПАКОЙ, ШТО З ЯЕ ПЛЫВЕ

Дзве важныя тэмы ў гэтым фрагменце Евангелля паводле св. Яна: неабходнасць прызнання аўтарытэту на падставе любові і дар Божага супакою, што плыве з абяцання Святога Духа.

Паслушэнства, якога патрабуе Езус, і вера ў Яго словы апіраюцца на ўсім, з чым Ён звязаў сваё навучанне. Пан Езус пацвярджае сапраўднасць сваіх слоў знакамі – цудамі. А самым пераканальным аргументам з'яўляецца Яго крыжовая Ахвяра. Ён палюбіў нас аж но да смерці, звязанай з выкананнем збаўчага плану Бога. Моц Яго любові пранікла праз цемру смерці, а пустая магіла стала крыніцай святла перамогі над грахом – непаслухмянасцю Божай волі. Гэта аргументы, перад якімі мы схіляем нашую волю, каб ісці шляхам, вызначаным навукай Хрыста.

Пан Езус ведаў, што гэта не будзе лёгка. Адсюль у Божым плане моц Святога Духа. Ахвяраваны дар збаўлення і наш адказ, які выражае давер, падтрыманы мудрасцю атрыманага Духа, нараджаюць супакой – непахісную ўпэўненасць, што мы знаходзімся на добрай дарозе, вядомыя ўпэўненай Божай рукой.

**VII ВЕЛІКОДНАЯ НЯДЗЕЛЯ**
**Ян 17, 20–26**

Езус узняў вочы свае да неба і маліўся такімі словамі: "Ойча святы, не толькі за іх прашу Я, але і за тых, хто паверыць у Мяне паводле слова іхняга, каб усе былі адно, як Ты, Ойча, ува Мне, і Я ў Табе, каб і яны былі ў Нас, каб паверыў свет, што Ты паслаў Мяне. І славу, якую Ты даў Мне, Я даў ім, каб былі адно, як і Мы адно. Я ў іх, а Ты ўва Мне. Каб былі з'яднаныя ў адно, каб свет пазнаў, што Ты паслаў Мяне і палюбіў іх, як палюбіў Мяне. Ойча, хачу, каб тыя, каго Ты даў Мне, былі са Мною там, дзе Я ёсць, каб бачылі славу Маю, якую Ты даў Мне, бо палюбіў Мяне перад заснаваннем свету. Ойча справядлівы, свет не пазнаў Цябе, але Я пазнаў Цябе, і яны пазналі, што Ты паслаў Мяне. І Я адкрыў ім Тваё імя і буду адкрываць, каб любоў, якою Ты палюбіў Мяне, у іх была, і Я ў іх".

## МОЦ МАЛІТВЫ

Гэтая малітва павінна часта гучаць у нашых сэрцах. Яна датычыцца нас. Езус памятаў не толькі пра сваіх самых блізкіх вучняў, але, дзякуючы гэтай просьбе да Айца, і мы прысутнічалі ў Вячэрніку! Усведамленне сабе гэтага факта не можа не паўплываць на ўсё, што мы думаем і што робім у жыцці. Малітва Езуса – Сына Божага – за дзень да крыжовай смерці павінна быць эфектыўнай! У ёй заключана сіла пераканання нашага хрысціянства перад абліччам свету. Давайце прызнаем з пакорнасцю, што нам не вельмі ўдаецца... Свет не без цяжкасцей прымае праўду аб збаўленні, ахвяраваным Езусам. Чаму? За тое, каб свет пазнаў і прыняў Бога, маліўся ж сам Пан Езус! Адказ трэба шукаць у тым, што мы нават не спрабуем пазнаць Езуса так, як Ён гэтага ад нас чакае. Нашыя веды больш чым павярхоўныя. А што яшчэ горш, мы не адчуваем жадання змяніць гэтае становішча рэчаў. Ён гэта прадбачыў, а таму маліўся за нас і зрабіў усё, каб стала інакш...

*Кс. Яраслаў Грынашкевіч*



## СЛОВА РЭДАКТАРА

*Кс. Павел Салабуда*

# Марыйны Касцёл у Беларусі

***У нашай краіне вельмі моцны культ Найсвяцейшай Панны Марыі, якая вядзе нас да Хрыста. Пацвярджэннем гэтага з'яўляецца месяц май і звязанае з ім маёвае набажэнства. У гэтым месяцы святыні нібы зноў ажываюць. Вернікі збіраюцца каля крыжоў, у дамах і святынях. Супольная малітва аб'ядноўвае людзей рознага ўзросту: старэйшых асоб і сярэдняе пакаленне, сем'і, моладзь і дзяцей. На працягу ўсяго месяца кожны спявае літанію да Божай Маці на мелодыю свайго жыцця.***

***Можна сцвердзіць, што мы з'яўляемся марыйным народам, а Беларусь становіцца марыйнай краінай, якая зменяе аблічча свету. Пілігрымуючы па нашай зямлі, можна сустрэць мноства святынь, прысвечаных Маці Божай. Нашыя дамы запоўнены абразамі і фігуркамі Панны Марыі. Усё гэта сведчанне таго, што мы ахвяраваны Божай Маці, Яе заступніцтву. Марыя валадарыць у Беларусі. Гэта менавіта Яна вядзе нас да свайго Сына.***

Мне вельмі спадабаліся словы папы Францішка, прамоўленыя ў час яго чарговых разважанняў: "Шчаслівая тая, якая паверыла!". Марыя шчаслівая, таму што позірк Яе сэрца заўсёды быў скіраваны на Бога, на Божага Сына, якога Яна насіла ва ўлонні і сузірала на крыжы. У адарацыі Найсвяцейшага Сакраманту Марыя кажа нам: "Паглядзі на майго Сына Езуса, скіруй свае вочы на Яго, слухай Яго, размаўляй з Ім. Ён глядзіць на цябе з любоўю. Не бойся! Ён навучыць цябе, як пайсці за Ім і сведчыць пра Яго ў малых і вялікіх учынках тваёго жыцця, у сямейных адносінах, у тваёй працы, у святочныя хвіліны. Навучыць цябе выходзіць за свае межы, каб глядзець на іншых з любоўю, так, як Ён, які не словамі, а фактамі палюбіў цябе і любіць дагэтуль!".

У Год міласэрнасці мы можам асабліва чынам аддаць сябе пад апеку Марыі, нашай Маці Міласэрнасці, каб Яна абараніла нас ад зла і дазволіла чалавеку дасягнуць паўнаты развіцця – святасці. Папа Францішак падкрэсліў, што Найсвяцейшая Панна Марыя, як першая са збаўленых, прыклад Касцёла, святая і беззаганная Абранніца, можа дапамагчы нам адкрыць першакрыніцу Божай міласэрнасці і заклік да здзяйснення міласэрнасці. Год міласэрнасці запрашае нас узяць прыклад з Марыі. Яна мела вялікае сэрца, была вернай Езусу і праз свой спосаб жыцця падказала нам, як мы павінны жыць і дзейнічаць.

Марыя заўсёды была, ёсць і будзе прысутна ў нашым народзе. Гэта Яе голас мы чуем тады, калі нам неабходна мацярынская апека. Гэта Яна заўсёды прысутнічае са сваімі дзецьмі як Маці, якая ніколі іх не пакіне. У марыйным месяцы мы заклікаем і просім аб мацярынскай апецы для нашай краіны, каб нашыя людзі мелі годнае жыццё, добрую працу і заробак, каб маглі выхаваць сваіх дзяцей разам з Божай Маці.

***Марыя, Каралева свету і Беларусі, маліся за нас!***

# Беліца

ДЭКАНАТ ЛІДА

***Паводле архіва Гродзенскай дыяцэзіі***



*Драўляная капліца на могілках*



*Галоўны алтар у капліцы*

Гэта адна з самых старэйшых рымска-каталіцкіх парафій дэканата. Тут, у вялікакняскім уладанні (калісьці староства з замкам), парафіяльны касцёл пад тытулам св. Юрыя Пакутніка (Пераможцы) быў заснаваны ў 1486 г. каралём Казімірам Ягелончыкам. Новы будынак касцёла збудаваны ў 1505 г. У 1553 г. Мікалай Радзівіл Руды, гетман ВКЛ і тагачасны дзяржаўца Беліцы, зрабіў са святыні кальвінскі збор, але да сярэдзіны XVII ст. парафія адрадзілася. З таго часу і да 1832 г. пры касцёле дзейнічала фундаваная Сапегамі рэзідэнцыя дамініканцаў ад кляштара ў Ельні, а таксама парафіяльная школа.

У 1787 г. на сродкі генерала польскіх войскаў Ігнацыя Мараўскага ў беліцкай рэзідэнцыі быў узведзены новы драўляны касцёл, які з дазволу віленскага біскупа Ігнацыя Якуба Масальскага ў тым жа годзе асвяціў дамініканец кс. Францішак Кантоўскі. Гэта была велічная двухвежавая трохнававая святыня з трансептам у стылі барока, вальмы двухсхільнага гонтавага даху над прэзбітэрыем завяршала сігнатурка. Інтэр'ер упрыгожвалі пяць алтароў: галоўны з абразом Пана Езуса, бакавыя – Маці Божай Ружанцовай, св. Вінцэнта з Ферары, св. Тэклі, св. Антонія. Побач з касцёлам стаяла трох'ярусная чацверыковая драўляная званіца. Касцёльны комплекс быў абнесены драўляным плотам. Злева ад уваходу на ўчастак, перад могілкамі, стаяў сонечны гадзіннік. Калятарамі касцёла па-ранейшаму лічыліся магнаты Радзівілы, аб чым у касцёле захоўвався дакумент ад 14 чэрвеня 1696 г.

У 1832 г. з закрыццём дамініканскага кляштара ў Ельні была ліквідавана і рэзідэнцыя ордэна ў Беліцы. У 1837 г. касцёл перадалі ў праваслаўнае ведамства і 20 лютага 1840 г. храм быў асвечаны як праваслаўная царква Святога Духа, якая атрымала статус прыпісной да збляніскай царквы. Пры перабудове над вежамі і сяродкрыжжам святыні з'явіліся цыбулепадобныя галоўкі.

У 1919 г. святыня зноў была вернута католікам і ў 1922 г. нанова адбудавана ўжо як парафіяльны касцёл. У тыя гады беліцкая парафія налічвала больш за 2000 вернікаў. Да парафіі належалі філіяльны касцёл у Крывічах і капліца на парафіяльных могілках у самой Беліцы. Апошняя была пабудавана дамініканцамі каля 1824 г. з дрэва, асвечана пад тытулам Маці Божай Ружанцовай і выконвала функцыю каталіцкай святыні ў час, калі касцёл быў забраны пад царкву.

Капліца ўяўляе сабою прамавугольны зруб з трохграннай алтарнай часткай, арыентаванай на паўночны захад, да якой з правага боку прыбудавана сакрыстыя. У 1990-я гг. капліцу падоўжылі ў алтарным напрамку, павялічыўшы яе даўжыню амаль удвая. Святыня накрыта двухсхільным дахам з вальмамі над алтаром і завершана чацверыковай шатровай вежачкай над уваходам. У нішы ўваходнага франтона з самага пачатку існавання капліцы ўсталявана разьбяная фігура св. Яна Непамука. У залавым інтэр'еры, перакрытым плоскай падшыўной столлю, размешчаны галоўны алтар з тытульным абразом Маці Божай Ружанцовай і дзве алтарныя кампазіцыі: злева – Найсвяцейшай Панны Марыі (абраз у сярэбранай шаце, перавезены са знішчанай філіі ў Крывічах) і фігура Маці Божай, справа – Маці Божай Вострабрамскай і фігура Пана Езуса. Таксама ў капліцы захоўваюцца вялікі абраз св. Юрыя з галоўнага алтара беліцкага касцёла і вялікі абраз Святой Сям'і з ельнаўскага.

Падчас II Сусветнай вайны пробашч кс. Стэфан Дабравольскі быў расстраляны немцамі. У пасляваенны час старажытны касцёл у Беліцы быў зачынены, выкарыстоўваўся як спортзала мясцовай школы. Потым стаяў занядбаны і з часам быў знішчаны. Аднак драўляная капліца на могілках не толькі захавалася, але нават была залічана да шэрагу помнікаў архітэктуры. Злева ад святыні паставілі каркасную металічную званіцу. 22 жніўня 1992 г. капліца пасля рэканструкцыі была асвечана гродзенскім біскупам Аляксандрам Кашкевічам.

З 1997 г. у цэнтры Беліцы паводле праекта польскага архітэктара Юліяна Стоцкага распачалося будаўніцтва дзвюхвежавага велічнага касцёла з сілікатнай цэглы. 14 ліпеня 2011 года адбылася вялікая ўрачыстасць – асвячэнне касцёла св. Юрыя, якое здзейсніў кс. бп Аляксандр Кашкевіч.



*Новая святыня*

# Першая святая Камунія – найважнейшы Хрыстос



● працяг са с. 1

### У ЯКІМ УЗРОСЦЕ ДЗЕЦІ ПАВІННЫ ПРЫСТУПАЦЬ ДА СВЯТОЙ КАМУНІІ?

Псіхалогія, педагогіка, а таксама мой шматгадовы вопыт указваюць на тое, што малое дзіця адкрыта на свет духоўных каштоўнасцей. Кожны, хто працуе з дзецьмі, ведае: чым больш дабра і простага пазнання Бога мы ўкладзём у іх сэрцы і розумы ў раннім дзяцінстве, тым лепш. Невыпадкова папа Пій Х дапусціў дзяцей да ранняй святой Камуніі, падкрэсліўшы неабходнасць стварэння сапраўднай рэлігійнай атмасферы ў сям'і. Аб'ектыўны парадак, якім мы кіруемся ў нашай дыяцэзіі, – гэта ўзрост 9-10 гадоў.

### ПЕРШАЯ СВЯТАЯ КАМУНІЯ І ПЕРШАЯ СВЯТАЯ СПОВЕДЗЬ– ВАЖНЫЯ ПАДЗЕІ Ў ЖЫЦЦІ ДЗІЦЯЦІ. У ЧЫМ ЗАКЛЮЧАЕЦЦА АДПАВЕДНАЯ ПАДРЫХТОЎКА ДА ГЭТЫХ САКРАМАНТАЎ?

Існуе так званая падрыхтоўчая праграма да гэтых сакрамантаў. Але зразумела, што кожны катэхет працуе трохі інакш. На гэта ўплывае шэраг фактараў: падыход да дзяцей, уменні, якімі Бог надзяляе, стаж катэхетычнай працы і г. д. Аднак, асабіста я лічу, што ва ўсіх павінны быць пэўныя супольныя рысы. Найлепшым фундаментам, пакладзеным пад падрыхтоўку дзяцей, з'яўляецца пакорнае ўсведамленне таго, што Езус захацеў зрабіць катэхета сваім інструментам, які павінен быць толькі мастом, па якім кожнае дзіця можа бяспечна пабегчы на сустрэчу з Богам. А другая калона гэтага фундамента – гэта нястомны клопат аб паглыбленні свайго духоўнага жыцця, каб сапраўды жыць ласкай тых сакрамантаў, да якіх катэхет вядзе іншых.

Наступным катэхетычным метадам (калі так можна выразіцца) з'яўляецца малітва. За дзяцей і іх бацькоў павінны пастаянна маліцца. Добра, калі гэта робіць цэлая парафія.

Чым больш духоўна сталы катэхет, тым лепш ён расстаўляе прыярытэты ў падрыхтоўцы дзяцей да Першай святой Камуніі.

Можна, канешне, засяродзіцца на тым, каб дзіця засвоіла катэхетычную інфармацыю, так званую тэорыю. І гэта важна. Можна паклапаціцца аб тым, каб дзіцяці на працягу гэтых двух гадоў даць шмат рэлігійных перажыванняў, бо, як вядома, вопыт падмацуе тэорыю. І гэта таксама важна. Але на самой справе, важней за ўсё, каб дзіця навучылася кантакту з жывым Богам. Кожны катэхет павінен засяроджвацца не столькі на падрыхтоўцы прыгожай, хоць і аднаразовай урачыстасці, колькі на тым, каб паказаць дзіцяці дарогу сувязі з Богам. Менавіта на гэтым палягае таямніца першых сакрамантаў: жывая, сапраўдная, няспынная сувязь з Богам.

### ЯК БАЦЬКІ ПАВІННЫ ПАДТРЫМЛІВАЦЬ ДЗІЦЯ Ў ЧАС ПАДРЫХТОЎКІ?

Бацькі ў гэты час важнейшыя, чым кзёндз за амбонам ці катэхет у класе. Каб добра падрыхтаваць дзіця да сустрэчы з Панам Езусам, неабходна супрацоўніцтва дарослых. Я маю на ўвазе бацькоў, святароў, катэхетаў. Катэхеты перадаюць веды, а бацькі – веру. Удзел бацькоў павінен мець канкрэтныя акцэнты, а менавіта:

- **клопат аб нядзельнай Эўхарыстыі** (хоць сорамна гаварыць пра гэта ў кантэксце падрыхтоўкі да святой Камуніі, але, на жаль, мы жывём у такіх рэаліях);
- **клопат аб сістэматычнай катэхезе**;
- **зацікаўленасць праграмай** (каб дома гаварылася тое ж, што і на занятках, бо інакш дарослыя крыўдзяць дзіця, якое любяць);
- **удзел у сустрэчах для бацькоў,** якія арганізуюцца ў многіх парафіях (гэта шанс паглыбіць свае рэлігійныя веды, упарадкаваць сваё жыццё. Магчыма, бацькі на працягу многіх гадоў не прыступаюць да сакрамантаў або, хоць не маюць перашкод, жывуць без сакраманту шлюбу. Праз удзел у гэтых сустрэчах яны рыхтуюцца да таго, каб дапамагчы дзіцяці, калі яно прыйдзе з якім-небудзь пытаннем, няўпэўненасцю, страхам);
- **актыўны ўдзел у падрыхтоўцы ўрачыстасці.**

### СЁННЯ ДАРОСЛЫЯ ЧАСТА СПАБОРНІЧАЮЦЬ У ПАКУПЦЫ ПАДАРУНКАЎ НА ПЕРШУЮ СВЯТУЮ КАМУНІЮ. ГЭТА ПРЫВОДЗІЦЬ ДА ТАГО, ШТО ЕЗУС АДЫХОДЗІЦЬ НА ДРУГІ ПЛАН. ЯКІ ПАДАРУНАК БУДЗЕ АДПАВЕДНЫМ? ЯК ПАВІНЕН ВЫГЛЯДАЦЬ КАМУНІЙНЫ ПРЫЁМ?

Кожнае дзіця аб нечым марыць, з нецярпеннем чакае падарункаў... І гэта нармальна. Праблема не ў дзецях, а ў дарослых. А дакладней кажучы – у сферы нашых каштоўнасцей. Таму гарачы заклік да бацькоў: дзейнічайце як веруючыя людзі, як хрысціяне. Не рабіце з урачыстасці Першай Камуніі гучнай вечарыны. Няхай гэта будзе свята радасці ад таго, што Бог ёсць у нас. Падарункі могуць засланіць Езуса. Менавіта ад Вас, дарагія бацькі, залежыць, ці станецца так. Вы пастаўлены для таго, каб любіць і ў любові кіраваць сваім дзіцём. Не аддавайце руль дзіцяці.

Як жа сумна катэхетам глядзець на дзяцей, якія маніпулююць сваімі бацькамі, у тым ліку ў справе камунійных падарункаў. Дык што ж, іх не дарыць? Можна. Толькі падумайце, як гэта зрабіць, каб не адцягнуць увагу дзіцяці ад таго, Хто з'яўляецца найважнейшым – ад самога Хрыста.



*"Блаславі, тата, блаславі, мама, далонямі сваімі, бо сёння Хрыста я прыму разам з усімі"*



*Бацькі запальваюць дзецям свечкі падчас аднаўлення хросных абяцанняў*

### НЕКАЛЬКІ ПРАКТЫЧНЫХ ПАДКАЗАК:

- **Размаўляючы з дзіцём, кожны раз акцэнтуйце ўвагу на Езусе.**
- **Вялікія падарункі рабіце дзіцяці на Дзень нараджэння. А на гэтую ўрачыстасць выберыце штосьці меншае** *(такім чынам пакіруйце ўвагай і радасцю дзіцяці).*
- **Лепш за ўсё, каб падарункі былі потым, напрыклад, падчас Белага тыдня, а не ў сам дзень святой Камуніі. Няхай Езус у гэты дзень будзе самай вялікай радасцю.**
- **Паклапаціцеся аб добрай атмасферы ў доме. Пазбягайце канфліктаў і сварак паміж сабой. Паверце, праз пару гадоў дзіця не ўспомніць пра падарункі, але атмасферу гэтага дня яно запамятае надоўга.**
- **Не забудзьце пра так званы Белы тыдзень. Запланюйце свае заняткі так, каб хтосьці з Вас мог быць з дзіцём на штодзённай Эўхарыстыі.**
- **Дакажыце, што Вы веруючыя людзі і любіце сваё дзіця. Паклапаціцеся аб тым, каб у гэты дзень на стале не было алкаголю.**

**Калі Вы думаеце, што гэта нерэальна, Вы памыляецеся. Я ведаю многіх цудоўных бацькоў, якія зрабілі з гэтай урачыстасці Сапраўдную, Сямейную, Святую Падзею. Бацькоў, якія не без цяжкасцей рыхтавалі сваіх дзяцей і сябе да прыняцця Езуса. Так-так! Я кажу пра нашы гродзенскія сем'і. Ведаю многіх звычайных, веруючых і мудрых бацькоў, якія не паддаліся модзе ці спажывецтву, якія, рызыкуючы быць незразуметымі, абаранілі цвярозасць гэтай урачыстасці, якія не забралі ў Езуса першае месца. І гэта прыносіць плён. Дзеці такіх бацькоў не знікаюць з касцёлаў і катэхетычных класаў пасля Першай святой Камуніі. Яны застаюцца на дарозе веры і сябруюць з Езусам.**

**Вось бы ў нашай дыяцэзіі было як мага больш такіх сямей, такіх дзяцей і такой радасці, якая выплывае з глыбокай еднасці з Езусам.**

***Кінга Красіцкая***

## СЛОВА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ

### *Папа Францішак*



*"І Я даю ім вечнае жыццё навекі, і яны не загінуць ніколі, і ніхто не вырве іх з рукі Маёй" (28). Хто можа казаць так? Толькі Езус, бо "рука" Езуса – гэта таксама і "рука" Айца, а Айцец "больш за ўсіх" (29). Гэтыя словы перадаюць нам адчуванне абсалютнай бяспекі і бязмежнай пяшчоты. Наша жыццё поўнасцю бяспечнае ў руках Езуса і Айца, якія адно: адзіная любоў, адзіная міласэрнасць, аб'яўленыя аднойчы і назаўсёды ў крыжовай ахвяры. Каб збавіць згубленых авечак, якімі з'яўляемся ўсе мы, Пастыр стаў ягняткам і дазволіў прынесці сябе ў ахвяру, каб узяць на сябе грэх і пазбавіць ад яго свет. Такім чынам Ён падарыў нам жыццё, жыццё ў дастатку (параўн. Ян 10, 10)! Гэтая таямніца абнаўляецца ў заўсёды здзіўляючай пакоры на эўхарыстычным стале. Гэта тут авечкі збіраюцца, каб падсілкавацца; гэта тут становяцца адно, паміж сабой і з Добрым Пастырам.*

*"Regina Coeli" са Святым Айцом, 17.04.2016*

### *Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч*



*Чытанне з Дзеяў Апосталаў распавядае аб тым, як вайсковая варта прывяла вучняў Хрыста ў Сінэдрыён, дзе Першасвятар спытаўся ў іх: "Мы вам забаранілі навучаць у імя Езуса, дык чаму ж вы гэта чыніце?". Але Пётр яму адказаў: "Трэба больш слухаць Бога, чым людзей". Гэтым Пётр пацвердзіў сваё сведчанне аб Уваскрослым Хрысце.*

*Словы апостала Пятра аб тым, што яны з'яўляюцца сведкамі Уваскрасення Хрыста, адносяцца да кожнага з нас. Мы таксама вучні Езуса. Што Езус казаў Апосталам, тое ж кажа і нам у сваім Евангеллі.*

*У краінах, дзе ёсць канфесіянальныя школы, вучні кожнай з іх носяць адпаведную школьную форму, па якой можна распазнаць іх веравызнанне. Такім чынам яны прэзентуюць не толькі сябе саміх, але і сваю школу, і веру.*

*Так і кожны з нас павінен быць не толькі Івановым, Пятровым ці Сабалеўскім, але, перш за ўсё, хрысціянінам і прадстаўніком Касцёла.*

*Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас св. Імшы на распачацце беатыфікацыйнага працэсу Эдварда Вайніловіча, 10.04.2016*




◆ *У сярэдзіне сакавіка папа Францішак далучыўся да яшчэ адной сацыяльнай сеткі – Instagram. Толькі на працягу першых 12 гадзін за профілем Пантыфіка сталі сачыць больш за мільён чалавек. Прэфект Сакратарыята па справах камунікацыі монсіньёр Дарыё Вігано адзначыў, што такі поспех варта звязваць з тым, што людзі хочуць бачыць Папу, "мець пры сабе". Instagram стварае "выдатную магчымасць данесці да іх пасланне Папы, Евангелля і Касцёла", – лічыць ён.*

◆ *У Фульда распачаў працу XV Кангрэс веры, які штогод арганізоўвае Форум нямецкіх католікаў. Да нядзелі 2 жніўня больш за 1500 свецкіх і духоўных асоб прымуць удзел у багатай праграме, што ўключае ў сябе літургію і розныя сустрэчы. Сёлета кангрэс праходзіць пад дэвізам: "Сужэнства і сям'я – Божая місія і дарога да шчасця". Выступоўцы, запрошаныя з розных еўрапейскіх краін, прадстаўляць сужэнства як неразрыўны сакрамант, які патрабуе асаблівага клопату з боку не толькі Касцёла, але і дэмакратычнай краіны.*

◆ *У маі павінен пачацца рамонт у эдыкуле Гробу – пабудаванай над магілай Езуса капліцы, якая знаходзіцца ў цэнтры базілікі Гробу Пана. Гэта будзе першы рамонт за апошнія 200 гадоў. Рашэнне аб фінансаванні работ выказаў мусульманскі кароль Абдала II. Як сцвердзіў вікарый лацінскага патрыярхату Іерусаліма бп Уільям Шамалі, такі крок мае сімвалічнае значэнне: гэта гарантуе бяспеку святым месцам – як хрысціянскім, так і мусульманскім. Каралеўская дынастыя не толькі словамі, але і ўчынкамі пацвярджае факт мірнага суіснавання мусульман і хрысціян у Святой Зямлі.*

◆ *Вуліцу Патрыса Лумумбы ў сталіцы Украіны пераймянуюць у вуліцу Яна Паўла II. Рашэнне прынята на пасяджэнні пастаяннай камісіі Кіеўскага гарадскога савета па пытаннях культуры, турызму і інфармацыйнай палітыкі. На наступным этапе праект будзе разгледжаны пастаяннай камісіяй Кіеўскай рады па пытаннях мясцовага самакіравання, рэгіянальных і міжнародных сувязей, пасля яго вынесуць на пленарнае пасяджэнне Кіеўскай рады. У гонар святога Папы-славяніна ўжо перайменаваны вуліцы ў Житоміры, Сумах і Вінніцы.*

◆ *Брытанскія жаночыя манаскія ордэны здзіўляюць нечаканым ростам пакліканняў. У мінулым годзе навіцыят распачалі 44 жанчыны – гэта самая вялікая колькасць за апошнія 25 гадоў. Годам раней навіцыятак было 35. Такая станоўчая тэндэнцыя назіраецца на Брытанскіх Астравах ужо 10 гадоў. Летась 18 маладых жанчын уступілі ў сузіральныя ордэны, а 27 – у апостальскія супольнасці. На думку кс. Крыстафера Джэмісана, адказнага за папулярызацыю святарскіх пакліканняў, такое ажыўленне з'яўляецца эфектам развіцця моладзевых душпастарстваў у на працягу апошніх гадоў.*

*credo-ua.org; gosc.pl; niedziela.pl*

**Ангеліна Пакачайла**

# УЧЫНАК ДЛЯ ДУШЫ БЛІЖНЯГА. РАІЦЬ ТЫМ, ХТО СУМНЯВАЕЦЦА






Па-першае, кожны чалавек перажывае хвіліны розных сумненняў і патрабуе добрай парады. Няма, напэўна, таго, хто б прымаў адказныя рашэнні і не вагаўся. Тлумачыцца ўсё тым, што людзі часам не маюць мудрасці, якая дазваляе выбіраць цвёрда і рашуча. Перажываць сумненні – натуральна. Непакоіцца варта тым, хто ніколі іх не зведваў.

Па-другое, мы самі з'яўляемся патэнцыяльнымі дарадцамі, тымі, хто можа паслужыць іншаму добрай радай. Гаворка ідзе аб уменні выслухаць чыесьці сумненні, быць гатовым дапамагчы ацаніць сітуацыю і паказаць дарогу. Сумненні здольны паглыбіць чалавека ў хаос уласных думак і пачуццяў. Мы ж, хрысціяне, пакліканы праз добрыя парады несці "згубленым" людзям сэнс жыцця і веру ў дабро. У гэтым заключаецца душпастарства Касцёла, якое ў зменных акалічнасцях нястомна набліжае і актуалізуе Божую волю, даючы адпор адчаю і страце надзеі.

Пётр пачаў тануць, бо засумняваўся. Засумняваўся, таму што замест таго, каб глядзець на Езуса, давяраць Яму, пачаў глядзець на разбушаваныя хвалі возера і, адчуўшы моцны вецер, спалохаўся (параўн. Мц 14, 30). Мы ў сваім жыцці таксама неаднойчы перажываем падобныя сітуацыі, калі накопленыя цяжкасці, балючыя падзеі прыкоўваюць усю нашу ўвагу – і мы забываемся пра жывую прысутнасць Бога, пра Яго моц, якая можа нас правесці па разбушаваных хвалях жыцця, якая здольна іх суцішыць.

У Евангеллі чытаем, што Хрыстос неаднойчы даваў парады людзям, якіх апанавалі сумненні. Фарысей Нікадэм прыходзіў да Езуса ноччу, каб у размове з Ім шукаць для сябе святло. Багаты юнак пытаўся ў Хрыста, што трэба рабіць, каб дасягнуць вечнага жыцця.

Парада – гэта дапамога ў выглядзе павучання ці ўказання спосабаў выхаду з цяжкасцей, якія сустракаюць чалавека на шляху да пастаўленай мэты. Раіць іншым – не значыць прымаць за кагосьці рашэнне. Гэта значыць, падказаць у няпростай сітуацыі, засцерагчы ад зла і накіраваць погляд на духоўныя гарызонты. Таму калі мы даём камусьці параду, неабходна падкрэсліць свабоду і адказнасць за самога сябе той асобы, якой раім.

Каб дапамагчы таму, хто сумняваецца, неабходна, у першую чаргу, дазволіць чалавеку адкрыць свае сумненні. Інакш кажучы, увайсці з ім у блізкую сувязь і заваяваць давер.

Не трэба раіць бяздумна. Неабходна выкарыстаць усе свае веды і вопыт. Калі хтосьці не ведае адказу на пытанні, не павінен раіць. Даючы некампетэнтныя парады, ён можа ўчыніць сур'ёзную шкоду. Таму тыя, хто дае жыццёвыя парады, нясуць пэўную адказнасць за свае падказкі. Святое Пісанне папярэджвае: "Судзі справы бліжняга паводле сваіх уласных і над кожнай справай падумай добра" (Сір 31, 15).

Удзеленая парада не можа пайсці супраць бліжняга. Гэта быў бы грэх злоўжывання даверам, свайго роду д'ябальскі грэх: гэта ж ён раіць дрэннае чалавеку. Удзеленая парада павінна паходзіць з любові да бліжняга, клопату аб яго карысці і звычайнай добразычлівасці.

Часам чалавечай мудрасці недастаткова. За добрай парадай можна і трэба звяртацца да Святога Духа, якога называем "Суцяшыцелем". Як дзеці Касцёла, ахрышчаныя і канфірмаваныя, мы маем поўнае права прасіць Яго актываваць у нас увесь патэнцыял Божай моцы. Сярод сямі дароў Святога Духа ёсць дар рады, які з'яўляецца крыніцай мудрасці, дапамагае разумна жыць і глядзець на свет.

Не трэба забывацца, што кожны чалавек мае свой тэмперамент, фізіялагічныя і псіхічныя якасці, жыццёвы вопыт. Таму часам даводзіцца чуць (і неабходна быць да гэтага гатовымі): "табе лёгка казаць", "ты не быў у такой сітуацыі" і да т. п. Нягледзячы на тое, што чалавек раіць няпроста, ад задумкі адмаўляцца не варта. Галоўнае – быць упэўненым у тым, што парада нясе карысць.

Часам Бог дапускае сумненні для таго, каб вера чалавека стала больш глыбокай, сталай і годнай заслугі. Таму трэба глядзець далей, сягаць глыбей, не даваць банальныя адказы на цяжкія пытанні, а прапускаць любое сумненне праз сіта міласэрнасці, мудрасці і вопыту.

**Ангеліна Пакачайла**

**А. Віталій Слука**

*Усе людзі сумняваюцца: наконт асабістых зносін, працы, вучобы, інтарэсаў і г. д. З аднаго боку, гэта някепска, таму што тады чалавек пачынае думаць, разважаць, задаваць сабе пытанні. Але з іншага боку, сумненні могуць прывесці да негатыўных з'яў. Св. Пётр засумняваўся і пачаў тануць, Юда засумняваўся і здрадзіў Хрысту... У стане ваганняў чалавеку небяспечна заставацца сам-насам з сабою, таму што ён можа разгубіцца, страціць надзею. Таму, калі мы бачым, што неабходна нешта параіць бліжняму (пры гэтым, ведаем Божыя запаведзі і выходзім з любові да чалавека), то павінны з упэўненасцю дзейнічаць сваімі трапнымі думкамі, развейваючы сумненні адносна існуючай сітуацыі. Вядома, не ўсім стае мудрасці. Але нават сама неабыякавасць з нашага боку і малітва за чалавека, які сумняваецца, можа шмат зрабіць для яго дабра.*

**5 прычын здзейсніць учынак міласэрнасці:**

1. *Мы раім адзін аднаму, бо ўсе сумняваемся.*
2. *Добрая парада заўсёды неабходная і каштоўная.*
3. *Яна служыць аднаўленню добрых адносін з Богам і людзьмі.*
4. *Прынятыя добрыя парады ўзмацняюць пачуццё сэнсу жыцця, што прыводзіць да аднаўлення даверу і радасці.*
5. *Хрысціянская міласэрнасць – гэта не толькі добры ўчынак, але і абавязак.*

# ПАД ТВАЮ АБАРОНУ

● *працяг са с. 1*

**Святы Людовік Грыньён дэ Манфор пісаў пра Маці Божую Каралеву ўсіх сэрцаў як пра "Шэдэўр Божага стварэння". Прапануем дзесяць спосабаў, каб ушанаваць Каралеву Усіх Святых:**



Моладзь спявае на хвалу Марыі, праслаўляючы Яе цноты і просячы Яе заступніцтва

**1. РАСПАЧЫНАЙ ДЗЕНЬ З МАРЫЯЙ**

Кожную раніцу мы павінны ў малітве прысвячаць сябе Езусу праз Беззаганнае Сэрца Марыі. Гэта гарантыя ўдалага распачатага дня.

**2. МАЛІСЯ "ANGELUS" І "REGINA CAELI"**

Гэтыя марыйныя малітвы разважаюць ключавую прысутнасць Марыі ў таямніцы Збаўлення – уцелаўлення, мукі і смерці Пана Езуса.

**3. ПРЫСВЯЦІ ДОМ І СЯМ'Ю ЯЕ БЕЗЗАГАННАМУ СЭРЦУ**

Падрыхтавацца да прысвячэння можна праз дзевяцідзённае ружанцовае набажэнства, а затым папрасіць святара асвяціць абраз Найсвяцейшай Панны Марыі і паблаславіць сям'ю.

**4. ПРЫСВЯЦІ СЯБЕ МАРЫІ**

Гэта можна зрабіць праз акты, створаныя святымі Касцёла, напрыклад, узгаданым Людовікам дэ Манфорам і Максімільянам Кольбэ. Змест актаў можна знайсці ў кніжцы з набажэнствам.

**5. ПЕРАЙМАЙ СВЯТУЮ БАГАРОДЗІЦУ**

Калі мы сапраўды кагосьці любім, то хочам пазнаць гэтага чалавека лепш, накіроўвацца за ім і пераймаць усе яго добрыя рысы, якія Касцёл называе цнотамі. Пераймаем цноты Марыі: глыбокую пакорнасць, жывую веру, сляпое паслушэнства, нястомную малітву, здольнасць да самаадрачэння, непаўторную чысціню сэрца, гарачую любоў, гераічную цярплівасць, анёльскую дабрыню і нябесную мудрасць.

**6. СПАКУСА? КЛІЧ НАШУ ПАНІ**

Заўсёды, калі мы адчуваем спакусу, просім аб дапамозе Марыю. Д'ябал панічна баіцца Яе імя! Таму ў хвіліны спакусы пабожна адгаворваем "Вітай, Марыя!".

**7. УШАНОЎВАЙ МАРЫЮ Ў ЛІТУРГІЧНЫМ ГОДЗЕ**

Незлічоная колькасць свят у гонар Маці Божай сведчыць аб вялікай марыйнай набожнасці сярод Хрыстовага народу. Няхай гэтыя дні будуць для нас выразам удзячнасці да Найсвяцейшай Багародзіцы, нагодай, каб аднавіць і паглыбіць малітву.

**8. ЧЫТАЙ ПРА КАРАЛЕВУ АНЁЛАЎ**

Каб быць верным і набожным дзіцём Марыі, неабходна духоўная і інтэлектуальная фармацыя. Таму мы павінны клапаціцца як пра набажэнствы, так і пра веданне дактрыны. Пачаць можна з апостальскага ліста св. Яна Паўла II "Найсвяцейшая Панна Марыя і Ружанец".

**9. СТАНЬ АПОСТАЛАМ МАРЫІ**

Св. Максімільян Кольбэ адзначаўся неапісальнай любоўю да Маці Збаўцы. Адным з метадаў, якія ён прапанаваў, было набажэнства да Беззаганнай з дапамогай цудоўнага медаліка. Святы называў яго "духоўным патронам". Мы таксама можам далучыцца да якой-небудзь з груп, што асаблівым чынам ушаноўваюць Маці Божую Фацімскую. Апосталы Фацімы – гэта людзі добрай волі, якія хочуць выправіць свет і навярнуць блукаючых.

**10. ЗРАБІ РУЖАНЕЦ АСНОВАЙ СВАЙГО ЖЫЦЦЯ**

Маці Божая, аб'яўляючыся ў Фаціме траім дзецям, кожны раз (аж шасцікратна!) настойвала на адгаворванні Ружанца. Ці можам мы адмовіць паўторанай шэсць разоў просьбе ўласнай Маці?

**Падрыхтавала Кінга Красіцкая**




# Малітва за маці

**Божа Ойча, дзякую Табе за любоў да маёй мамы, якая прывіта ў маім сэрцы. Не дапусці, каб гэтае пачуццё калі-небудзь згасла ўва мне; абарані мяне ад усяго, што магло б яе ўсхваляваць ці засмуціць, і не дазволь, каб я забыўся, што абавязаны ёй жыццём, выхаваннем і апекай. Я не магу аддзячыць ёй за ўсё дабро, якое яна мне зрабіла, таму Ты, о мой Божа, узнагародзь яе замест мяне. Спашлі на яе ўсё добрае, дазволь ёй доўга і шчасліва жыць, а мною пакіруй так, каб я заўсёды яе шанаваў і любіў, не прынёс ёй ніякіх непрыемнасцей, а з часам стаў апорай у яе старасці.** *Амэн.*

# VI Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці

Дэвіз сёлетняй сустрэчы – "Міласэрнасці час да Бога набліжае нас!"

1 чэрвеня 2016 года
Гродна

*1 чэрвеня ў Гродне адбудзецца VI Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці. Хлопчыкам і дзяўчынкам распавядуць пра ўчынкі міласэрнасці адносна душы і цела, заахвоцяць рабіць дабро і быць міласэрнымі, як Бог Айцец. Таксама дзеці запрошаны разам з біскупамі адсвяткаваць юбілей 25-годдзя дыяцэзіі.*

*Арганізатары ўжо сёння абяцаюць цэлы набор цікавых пунктаў праграмы: найперш малітву, Эўхарыстыю, якую ўзначаліць біскуп, мноства забаў, музыкі, гульняў, конкурсаў, тэатральную інсцэніроўку. Конкурс малюнкаў, маляванне на тварах, лепка з гліны, пластыліну, батуты, забавы для самых маленькіх – толькі невялікая частка таго, што плануецца на сустрэчы для дзяцей.*

*На ўжо традыцыйны Дзень дзіцяці запрашаюцца першакамунійныя дзеці. "Няхай гэтая сустрэча будзе падзякай за дар Эўхарыстыі. Падзяліцеся сваёй радасцю з іншымі!" – заклікаюць арганізатары. На Дзень дзіцяці запрашаецца і літургічная служба алтара – міністранты.*

*"Дарагія дзеці разам з катэхетамі і бацькамі! Мы разлічваем на Вашу прысутнасць. З радасцю прыміце запрашэнне! Патэлефануйце і падайце заяўку аб удзеле, выступленні. Заахвочваем таксама да супрацоўніцтва ў арганізацыі гэтай цудоўнай справы. Ага! У нас ёсць яшчэ адна просьба. Памаліцеся аб добрым надвор'і, каб Бог падарыў нам прыгожае сонейка", – заахвочваюць арганізатары.*



**Праграма:**

- **9.00** – абвяшчэнне груп, сняданак;
- **10.30** – урачыстае адкрыццё VI Дыяцэзіяльнага дня дзіцяці;
- **11.00** – падрыхтоўка да святой Імшы;
- **11.15** – урачыстая святая Імша;
- **12.15** – пачатак забаўляльнай праграмы;
- **18.00** – падсумаванне VI Дыяцэзіяльнага дня дзіцяці, заканчэнне свята і ад'езд.

***Больш падрабязная праграма будзе пададзена пазней.***

**Агульная інфармацыя:**

- VI Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці адбудзецца пры парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гродне (мікраёраён Паўднёвы, вул. Цэнтральная, 26);
- для ўсіх удзельнікаў гарантавана харчаванне на працягу ўсяго дня.

**Умовы ўдзелу:**

- колькасць удзельнікаў не абмежавана, да ўдзелу запрашаюцца ўсе дзеці Гродзенскай дыяцэзіі;
- узрост удзельнікаў да 14 гадоў;
- удзел бясплатны;
- павінен быць адзін апякун на 10 дзяцей;
- з сабой мець кубак і коўдру або карымат.

***Аб удзеле трэба паведаміць да 26 мая кс. Юрыю Марціновічу – арганізатару і адказнаму за Дыяцэзіяльны дзень дзіцяці: e-mail: sakralna@op.pl, (8-044) 460-61-40, (8-029) 784-05-72.***



*А. д-р Андрэй Шчупал CSsR*

*Частка I*

# Шчырая споведзь

***Працягваем нашы разважанні аб сакраманце пакаяння і паяднання на старонках "Слова Жыцця". У папярэдніх нумарах мы грунтоўна прааналізавалі ўстанаўленне гэтага сакраманту самім Хрыстом і абмеркавалі ўжо тры з пяці ўмоў, абавязковых для добрай і плённай споведзі: рахунак сумлення, жаль за грахі і моцнае пастанаўленне выправіцца. Толькі пасля дакладнага выканання гэтых умоў мы маем права прыступіць да вызнавання сваіх грахоў перад святаром, да так званай шчырай споведзі.***

Неабходнасць індывідуальнага вызнавання грахоў перад святаром вынікае з волі Хрыста, які ў дзень свайго ўваскрасення звярнуўся да Апосталаў і іх паслядоўнікаў: "«Спакой вам! Як паслаў Мяне Айцец, так і Я пасылаю вас». І, сказаўшы гэта, дыхнуў і сказаў: «Прыміце Духа Святога. Каму адпусціце грахі, таму будуць адпушчаныя; на кім пакінеце, на тым застануцца»" (Ян 20, 21 – 23). З вышэйшага тэксту ясна вынікае, што, згодна з воляй Хрыста, адпушчэнне ці затрыманне грахоў залежыць ад вердыкту Касцёла, якому Ён даў спецыяльныя паўнамоцтвы ўдзялення гэтага сакраманту. Слуга Божы Святы Айцец Ян Павел II у апостальскай адгартацыі "Reconciliatio et paenitentia" тлумачыць, што "абвінавачванне сябе ва ўласных грахах неабходна, перш за ўсё, для таго, каб спаведнік мог ацаніць цяжар грахоў і жаль пэнітэнта, а таксама як урач высветліць стан хворага, каб лячыць яго і аздаравіць" (№ 31). Абвінавачванне сябе ў грахах перад Богам у прысутнасці святара з'яўляецца адначасова просьбай грэшніка аб Божай міласэрнасці ў час удзялення сакраманту. Пэнітэнт, вызнаючы перад спаведнікам свае грахі, у атмасферы вялікага даверу і гарантаванай таямніцы ў сакраманце пакаяння паказвае, што яго непакоіць і што баліць, адкрывае сябе на дзеянне гаючай сілы Езуса Хрыста.

Вызнаванне грахоў мае эклезіялагічны аспект. Кожны грэх наносіць рану ўсяму Касцёлу, які з'яўляецца містычным Целам Хрыста. Святар як прадстаўнік супольнасці ўводзіць грэшніка, што вярнуўся, у еднасць з Касцёлам. Выконваючы місію Езуса Хрыста, ён, перш за ўсё, паказвае пэнітэнту праўду пра яго самога. Гэта праўда аб тым, што Бог дасканала ведае, што крыецца ў сэрцы чалавека. Але той, хто хварэе на грэх, каб вылечыцца, павінен усвядоміць стан сваёй хваробы і супрацоўнічаць у працэсе лячэння. Чалавек схільны ўтойваць сваю грэшнасць і апраўдвацца як перад самім сабой, так і перад іншымі. Мы ведаем, што ніхто не можа быць аб'ектыўным суддзёй у адносінах да сябе. Спаведнік як вопытны эксперт па людскіх душах і выніках здзейсненых грахоў, прымаючы прызнанне пэнітэнта, дае яму адпаведныя падказкі і парады, а таксама накіроўвае да лепшага пазнання сваёй душы і лепшага жыцця. Эфектыўнасць гэтых парад залежыць ад добрага выканання трох першых умоў добрай споведзі, якія мы з Вамі ўжо агаворвалі. Святар у час удзялення сакраманту карыстаецца асаблівай падтрымкай Святога Духа. Як прадстаўнік Хрыста ён паказвае пэнітэнту Божую любоў і міласэрнасць. Хрыстос жа ў асобе гэтага святара адпускае грэшніку яго грахі і надзяляе радасцю, якая вынікае з паяднання з Богам. Такім чынам, кожная споведзь з'яўляецца асабліва ўзнёслай сустрэчай пэнітэнта з уваскрослым Хрыстом, які вяртае чалавека з духоўнай смерці да новага жыцця.

Каб споведзь была добрай і прынесла патрэбны плён, неабходна вызнаць усе цяжкія грахі, адпушчэнне якіх яшчэ не было атрымана падчас індывідуальнай споведзі, разам з указаннем іх колькасці і ўмоў здзяйснення, якія змяняюць род граху. Нас да гэтага абавязвае Кодэкс кананічнага права ў 988 каноне. Касцёл таксама рэкамендуе вызнаваць паўсядзённыя грахі, паколькі часцей за ўсё яны вядуць да цяжкага граху. Калі мы забываемся прызнацца ў цяжкім граху, наша споведзь сапраўдная, але мы абавязаны вызнаць гэты грэх падчас бліжэйшай споведзі.

У нас няма ніякіх прычын, каб нечага баяцца ці саромецца, паколькі святар павінен захоўваць строгую сакраментальную таямніцу. Ён не можа расказаць нічога са споведзі, нават калі прыйдзецца заплаціць за гэта ўласным жыццём, паколькі інакш, наклікаўшы на сябе экскамуніку Апостальскай Сталіцы, ён страціў бы магчымасць рэалізацыі свайго святарства. Гісторыя не ведае ніводнага святара, які б дапусціў такую здраду.

● *працяг у наступным нумары*

## З каталіцкага друку

**eKai.pl**

### *Забраныя з Лесбас дзякуюць Папе*

***Сірыйскія сем'і, якія Папа забраў з сабой з вострава Лесбас у Рым, усё яшчэ не могуць паверыць у шчасце, якое іх спаткала. "Ніводзін мусульманскі рэлігійны кіраўнік, ніводзін арабскі прэзідэнт не зрабіў для нас таго, што зрабіў Папа", – адзначаюць бежанцы.***

*Пакуль што яны пасяліліся ў прытулку, які ўтрымлівае супольнасць св. Ідзія, і там пачынаюць нармальнае жыццё. Дзеці пайшлі ў школу, а бацькі – на моўныя курсы.*

*Папа Францішак знаходзіўся на грэчаскім востраве Лесбас 16 красавіка. Падчас пяцігадзіннага візіту ён наведаў лагер для бежанцаў, у якім пражываюць 2,5 тысячы чалавек, што шукаюць прытулку. Іерарх паабедаў з імі і памаліўся за тых, хто патануў у Эгейскім моры, перапраўляючыся ў Грэцыю. Гэта было 13-ае замежнае падарожжа Пантыфіка.*

**Radio Vaticana**

### *40 тысяч матацыклістаў на Яснай Гары*

***Прама з галоўных юбілейных урачыстасцей хросту Польшчы на Ясную Гару прыбыў XIII Матацыклетны зорны злёт імя кс. Улана Здзіслава Пэшкоўскага. З малітвай за Польшчу і палякаў на адкрыццё сезона і па бласлаўленне прыехала каля 40 тысяч матацыклістаў не толькі з Польшчы, але і з-за мяжы.***

*Як падкрэслівае камандзір Віктар Вэнгжын, ініцыятар і арганізатар злёту, галоўная яго мэта – захаванне памяці пра Крэсы: "Мы адзін народ, і, нягледзячы на тое, што нас раздзялілі межы, не хочам забіраць у іх Вільню і Львоў, але прагнем мець туды доступ і ездзіць у гэтыя святыя польскія месцы".*

*Менавіта па гэтай прычыне там арганізуюцца Катыньскія рэйды, пілігрымкі ў месцы пакут і сустрэчы з палякамі, будуюцца школы, бібліятэкі і касцёлы. Матэрыяльным выражэннем памяці пра Крэсы быў збор дароў на Яснай Гары, у тым ліку цацак, якія трапяць у дзіцячыя дамы на Усходзе.*

**Catholic.by**
Рыма-Каталіцкі Касцёл у Беларусі

### *I Кангрэс сямейных рухаў у Беларусі*

***Кангрэс, арганізаваны Радай па справах сям'і пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі, пройдзе 13–15 мая ў Баранавічах. Ён будзе прысвечаны тэме прабачэння ў сям'і.***

*Мерапрыемства аб'яднае разам прадстаўнікоў сямейных рухаў, катэхетаў і выпускнікоў Школы сямейнага жыцця з Гродна і Мінска. Акрамя дакладаў, праграма ўключае працу ў групах метадам "адкрытай прасторы". Вынікам працы стане дакумент, апрацаваны кіраўнікамі дыскусійных груп. Ён будзе датычыць вельмі важнай тэмы прабачэння – падмурку шчаслівай сям'і. Пытанне разглядзіцца з пункту гледжання псіхалогіі, сацыялогіі, Бібліі і г. д.*

***Кінга Красіцкая***

## “Таямніца малітвы”

***Тэматычная сустрэча пад такой назвай прайшла ў Лідзе. У ёй прынялі ўдзел пажылыя людзі і шматдзетныя сем’і.***

Падчас сустрэчы з пажылымі людзьмі кс. Юрый Бяганскі казаў аб значэнні малітвы ў жыцці кожнага хрысціяніна. Святар адзначыў, што малітва павінна пастаянна спадарожнічаць кожнаму чалавеку, і даў практычныя парады, як добра маліцца, каб выпрасіць у Бога патрэбныя ласкі.



На сустрэчы з членамі шматдзетных сем’яў адбылася актыўная дыскусія на тэму салідарнасці і любові. Кс. Юрый распавёў пра Юбілейны год міласэрнасці. Святар адзначыў, што гэта асаблівы час ласкі, які дае Касцёл, каб аднавіць сваё жыццё, з даверам паглядзець у будучыню, стаць тымі, хто, спазнаўшы міласэрную любоў, будзе будаваць валадарства любові з братамі.

Кажучы пра любоў, святар заахвоціў адкрываць яе сапраўдную вартасць, каб яна заззяла нанова і стала прынцыпам асабістага, сямейнага, грамадскага і культурнага жыцця.

## У Навагрудку прайшоў музычны вечар кс. Тадэвуша Крыштопіка

***Канцэрт быў прысвечаны Году міласэрнасці. Яго арганізавала парафія св. Міхала Арханёла сумесна з гарадскімі ўладамі.***

Аўтарскі вечар сабраў розных творчых людзей з Навагрудка: паэтаў, мастакоў і ўсіх, хто цікавіцца рэлігійнай музыкай і паэзіяй. Сярод прысутных былі таксама святары, манахіні, настаўнікі.



Вітаючы прысутных, пробашч парафіі св. Міхала Арханёла кс. Юрый Жэгарын сказаў: “Каталіцкі Касцёл заахвочвае стаць прапаведнікамі Божай міласэрнасці не на словах, а ва ўчынках. Паняцце «міласэрнасць» у святле Божага слова азначае прабачэнне, падтрымку, разуменне, шчырасць, любоў. Таму гэты канцэрт стане хоць і невялікім, але дзейсным крокам, каб дакрануцца праз музыку і творчасць да нашага міласэрнага Збаўцы, Езуса Хрыста”.

Перад кожнай песняй быў невялікі ўступ-разважанне, у якім кс. Тадэвуш узгадваў словы такіх святых, як Бернард з Клерво, Эдыта Штайн, Амброзій, Аўгустын, Хасэмарыя Эскрыва, Тэрэза ад Дзіцятка Езус і іншых. Апрача асабіста ўкладзеных песень, кс. Тадэвуш выконваў кампазіцыі ўласнага перакладу з іншых моў, а таксама песні на замежных мовах.

## “Дакраніся да Божай міласэрнасці – крыніцы жыцця і любові”

***Пад такім дэвізам у лідскім Палацы культуры адбыўся вечар праслаўлення, арганізаваны каталіцкім евангелізацыйным рухам “Gloriosa Trinita”. Рух ужо шмат гадоў дзейнічае пры мясцовай парафіі Святой Сям’і.***

У сустрэчы прынялі ўдзел дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, святары, жыхары Ліды і навакольных мясцовасцей, а таксама прадстаўнікі руху з Польшчы, Італіі і Беларусі.



Падчас вечара гучалі сведчанні многіх людзей, якія спазналі дзеянне Бога, што радыкальна змяніла іх жыццё. Кс. Юзаф Ганьчыц, пробашч парафіі Святой Сям’і, адзначыў, што гэтая сустрэча была выразам падзякі Богу за Яго любоў, а ўдзельнікі сабраліся, каб зрабіць канкрэтную пастанову: “хачу прабачыць усім тым, хто ў жыцці мяне пакрыўдзіў, але адначасова хачу папрасіць прабачэння ва ўсіх, каго пакрыўдзіў я”.

Рух “Gloriosa Trinita”, які падрыхтаваў вечар праслаўлення, дапамагае людзям выпрастаць свае жыццёвыя сцежкі. Для многіх людзей ён стаў адной вялікай сям’ёй, дзе можна смела дзяліцца радасцямі і праблемамі. Мэтай жыцця з’яўляецца імкненне да святасці, да якой заахвочвае сам Хрыстос.

## Гродзенскія семінарысты пазнаёміліся з асновамі валанцёрства

***Навучэнцы Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Гродне прынялі ўдзел у семінары, які прайшоў у цэнтры “Карытас” Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.***

Дзякуючы насычанай практычнай частцы праграмы, удзельнікі семінара пазнаёміліся з асновамі валанцёрства на досведзе працы Мальтыйскай службы сацыяльнай дапамогі з Германіі. Семінарысты вучыліся аказваць першую медыцынскую дапамогу, даглядаць хворых, практыкаваліся ў розных формах творчых заняткаў з дзецьмі.



**АНОНСЫ**

## ЗМЕНЫ Ў ПРАГРАМЕ РЭКАЛЕКЦЫЙ У РОСІ

***Запланаваныя рэкалекцыі з а. Джэймсам Манджакалам у Беларусі не адбудуцца.***

*Замест іх у сувязі з Годам міласэрнасці пройдзе цыкл рэкалекцый з чатырох частак:* ***першы дзень – 14 мая, другі – 11 чэрвеня, трэці – 16 ліпеня, чацвёрты – 13 жніўня. Сустрэчы будуць пачынацца ў 10.00 і заканчвацца ў 20.30.***

*Просьба мець з сабою бутэрброды на абед і вячэру.*

## ІГНАЦЫЯНСКІЯ РЭКАЛЕКЦЫІ

***20–26 чэрвеня ў Навагрудку ў доме сясцёр назарэтанак адбудуцца ігнацыянскія рэкалекцыі (Фундамент) з а. Юзафам Аўгустынам SJ. Запрашаюцца свецкія вернікі, святары і кансэкраваныя асобы.***

*Рэкалекцыі праходзяць у строгім маўчанні.*
*Кожны дзень адбываецца размова з духоўным кіраўніком.*

***Паведаміць аб удзеле неабходна да 31 мая.***
***Больш падрабязная інфармацыя і запіс: (8-029) 637-55-14, (8-033) 687-29-02, kstad@tut.by – кс. Тадэвуш Крыштопік.***

**АНОНСЫ**

## СУСТРЭЧЫ ДЛЯ ЗАКАХАНЫХ

***27–29 мая ўсе закаханыя пары запрашаюцца на сустрэчы ў парафіяльны цэнтр касцёла Найсвяцейшага Адкупіцеля на Дзевятоўцы (г. Гродна).***

*Гэта цудоўная магчымасць распазнаць пакліканне, паглыбіць свае адносіны, і, магчыма, прыняць рашэнне на будучыню. Яны прызначаны як для заручаных, так і для пар, якія сустракаюцца без вызначанай даты вяселля. У мерапрыемстве могуць прымаць удзел пары закаханых незалежна ад канфесійнай прыналежнасці. Асабліва карыснымі яны будуць для тых, хто не мае магчымасці часта сустракацца з-за працы, вучобы ці вялікай адлегласці.*

***Праграма “Сустрэч для закаханых” прапануе:***

- *навучанне дыялогу – дарозе ўзаемнага пазнання, як падчас спатканняў адно з адным, у перыяд заручын, так і на працягу магчымага будучага шлюбнага жыцця;*
- *лепшае пазнанне рыс асобы, чаканняў, планаў, поглядаў, жыццёвых установак людзей, з якімі ўдзельнікі плануюць звязаць сваё жыццё;*
- *глыбейшае разуменне значэння таямніцы шлюбу;*
- *правядзенне аналізу, наколькі планы сумеснага жыцця дакладныя і сталыя.*

*“Сустрэчы для закаханых” дапамогуць убачыць перспектывы сваіх адносін, могуць стаць тым штуршком, які прывядзе да сур’ёзных сумесных рашэнняў.*

***Кантактныя нумары для запісу:***
***Павел і Алена Кузьміцкія (8-029) 604-54-67; Іван і Алена Лубінскія (8-029) 556-26-35, (8-029) 140-84-56, (8-029) 782-14-66; e-mail: sustre4y@tut.by.***

## VIII ПАРАФІЯДА ДЗЯЦЕЙ І МОЛАДЗІ ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ




***Парафіяда пройдзе 20–23 чэрвеня ў парафіі Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі (Гродна-Паўднёвы), парафіі Найсвяцейшага Адкупіцеля (Гродна-Дзевятоўка) і на стадыёне ЦСК “Нёман”. Дэвіз сёлетняй Парафіяды – “Будзьце міласэрнымі, як і Айцец ваш міласэрны” (Лк 6, 36).***

*Парафіяда – праект, заснаваны на старажытнагрэчаскай трыядзе “Святыня–Тэатр–Стадыён”. Арганізатары забяспечваюць удзельнікам харчаванне і пражыванне, выхаваўча-рэлігійную, культурную і спартыўную праграму.*

*Да ўдзелу запрашаюцца дзеці і моладзь з усёй Беларусі. Узрост удзельнікаў – 11-19 гадоў. Максімальная колькасць удзельнікаў ад адной парафіі – 15 чалавек + 1 апякун (ад парафіі можа быць і меншая група). Кожны ўдзельнік павінен мець пры сабе афармленую медыцынскую карту ўдзельніка Парафіяды з фотаздымкам, не старэйшым за адзін год.*

***Заяўку неабходна даслаць да 1 чэрвеня на адрас: grodno.parafiada@mail.ru. Кошт удзелу 50 000 руб.*** *(ёсць магчымасць вызвалення ад аплаты).*

***З падрабязнай праграмай і правіламі ўдзелу можна пазнаёміцца на сайтах grodnensis.by і catholic.by, а таксама патэлефанаваўшы па нумарах: (8-033) 624-35-22, (8-029) 319-54-65 – кс. Артур Малафей.***

**ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ**

## *Якая тэматыка працы парафіяльных рэлігійных груп была б для Вас цікавай?*




*У чарговым апытанні мы прапанавалі нашым чытачам выйсці за межы традыцыйных малітоўных сустрэч і адказаць на пытанне, якое датычыцца ўдзелу ў парафіяльным жыцці. Большасць рэспандэнтаў цікавіцца працай груп, якія дазваляюць паглыбіць духоўнае жыццё. Цікавяць вернікаў і групы, якія праводзяць хрысціянскія акцыі пры парафіях і займаюцца хрысціянскай адукацыяй.*

***Вынікі чарговага апытання каментуе кс. Павел Салабуда, галоўны рэдактар.***

**КАМЕНТАРЫЙ ЭКСПЕРТА**



***Кс. Павел Салабуда***

*Касцёл – гэта месца сустрэчы чалавека з Богам і іншым чалавекам. Часцей за ўсё мы сустракаемся праз малітву і ў малітве. Ёсць і іншыя спосабы, каб сустрэць Бога і іншых людзей. Большасць рэспандэнтаў прагнуць паглыбіць сваё рэлігійнае жыццё. Гэта можна зрабіць праз катэхезы, фармацыйныя сустрэчы, удзел у розных душпастарскіх акцыях. Сёння вельмі важна адчуваць сябе часткай парафіі, прымаць актыўны ўдзел у яе жыцці, каб нашая парафіяльныя супольнасці развіваліся на Божую хвалу і на карысць людзям. Паглыбляючы сваё рэлігійнае жыццё, мы клапоцімся таксама аб сваім духоўным развіцці, аб сваёй веры.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастараў:

**4 мая 1967 г.** – кс. Ян Вінажэндзіс, *проб. Нача;*
**7 мая 1944 г.** – кс. Яраслаў Войдаг, *проб. Ліпнішкі;*
**7 мая 1996 г.** – кс. інфулат Станіслаў Кучынскі, *рэктар ВДС, ген. вік. Гродна;*
**13 мая 1948 г.** – кс. Валяр’ян Галяк, *проб. Ашмяны.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўваліся інтэрнэт-старонкі:* ***grodnensis.by, catholic.by***




*Хвала Хрысту!*

*Вітаю чытачоў моладзевай рубрыкі "На скрыжаванні". У сённяшнім нумары мы з Вамі паразважаем пра прызначэнне жанчыны, яе ўнікальную ролю ў грамадстве і прыродную ахвярнасць. Падумаем, чым жаночая душа адрозніваецца ад мужчынскай і як прадстаўніцы цудоўнай паловы чалавецтва ўплываюць на будучыню.*

*Наперад з Богам!*


*Ангеліна Пакачайла*

# Выказаць захапленне жаночай душой

**ВЫКАЗВАННЕ З БІБЛІІ: "І сказаў Гасподзь Бог: нядобра быць чалавеку аднаму; створым яму памочніка, адпаведнага яму" (Бц 2, 18)**

Разам мужчына і жанчына могуць усё, што ні адзін паасобку здзейсніць не зможа. Дасканалых няма, кожны чалавек унікальны. І ніхто не пераўзыходзіць другога, паколькі абодва аднолькава неабходныя. Па задуме Стварыцеля, мужчына і жанчына ўзаемна дапаўняюць адзін аднаго, як ключ і замок.

**ІНТЭНЦЫЯ МЕСЯЦА: каб ва ўсіх краінах свету да жанчын адносіліся з шанаваннем і павагай, а таксама каб быў ацэнены іх неабходны ўклад у развіццё грамадства**

Галоўнае прызначэнне жанчыны – быць увасабленнем Любові. І дзяліцца гэтай любоўю ўсімі даступнымі шляхамі: праз ўзаемаадносіны, творчасць, працу. Жанчыны фарміруюць будучыню, выхоўваючы дзяцей. Ад таго, якімі яны стануць, залежыць заўтрашні дзень. Молімся за жанчын, каб яны і далей напаўнялі любоўю ўсё, да чаго дакранаюцца.

**ПРАДМЕТ РАЗВАЖАННЯЎ МЕСЯЦА: прызначэнне**

Бог невыпадкова стварыў нас жанчынамі і мужчынамі, даўшы кожнаму непаўторныя дары і таленты, адвёўшы кожнаму яго месца і абавязкі. У залежнасці ад гэтага людзі будуюць сваё жыццё. Адны нараджаюць і выхоўваюць дзяцей, другія абараняюць сваю сям'ю. Адны займаюцца фізічнай працай, другія ствараюць утульнасць і прыгажосць.

Толькі тады, калі мы ўсвядомім, навошта Бог стварыў нас менавіта такімі, а не іншымі, мы будзем па-сапраўднаму шчаслівымі. Адсюль і слушныя клопаты, мары, надзеі.

**МЭТА МЕСЯЦА: дакладна акрэсліць мужчынскія і жаночыя ролі**

У сённяшнім свеце часта адбываецца змяшэнне роляў: жанчына можа выконваць мужчынскія абавязкі, а мужчына – жаночыя. Жанчыне, напрыклад, нярэдка даводзіцца насіць цяжкія сумкі, надрывацца на некалькіх месцах працы. Яна можа і шафу сабраць, і кран адрамантаваць. Вядома, сапраўдная жанчына ўсё можа зрабіць сама, толькі, як кажуць, сапраўдны мужчына гэтага не дапусціць.

Жанчынам час паразважаць над тым, ці не прымяраюць яны на сябе мужчынскія ролі, а мужчынам – ці дазваляюць яны жанчынам "замяшчаць" іх у сваім жыцці.

**СПРАВА МЕСЯЦА: выказаць захапленне жаночай душой**

Чым жа яна адрозніваецца ад мужчынскай? Жаночая душа больш адчувальная, пяшчотная і ранімая. Яна паклікана аддаваць, дзяліцца сабою са светам. Гэта тлумачыцца тым, што кожная жанчына – патэнцыяльная маці. І яе прызначэнне – прыносіць сваё жыццё ў дар.

Мама, сястра, бабуля, сяброўка, знаёмая, калега... Вакол нас шмат жанчын, якім варта выказаць падзяку або прапанаваць плячо падтрымкі. Гэта можна здзяйсняць пастаянна праз добрае слова, учынак або малітву.

**ПЕСНЯ МЕСЯЦА: "Любіце жанчын", Т1Оne**

Выканаўца глыбока разглядае прыроду жанчыны: "яна ўсім сэрцам бачыць глыбіню істоты", "і нават у недахопах заўважыць нешта добрае". "Каб дарыць сваё нутро, ёй не патрэбны прычыны", "любіць насуперак усяму і не можа інакш". У песні гучыць заклік шанаваць і захапляцца жанчынамі кожнае імгненне. "Не трэба лішніх слоў, проста любіце іх...". Выканаўца жадае, каб у жаночых сэрцах бясконца была вясна, і "толькі радасць у іх цудоўных вачах".

**КНІГА МЕСЯЦА: "Жанчыны місіянеркі", Вера Кушнір**




Аўтар распавядае пра лёсы простых жанчын-хрысціянак, якія прысвяцілі сябе служэнню Богу і людзям. На прыкладзе іх жыцця паказана, што кожная жанчына, якая любіць Бога, з'яўляецца Яго вучаніцай і мае магчымасць працягнуць гэты спіс. Кніга можа стаць добрай дапамогай у працы жаночых гуртколў і груп пры касцёле, а таксама яна карысная для індывідуальнага вывучэння.

**АСОБА МЕСЯЦА: святая Уршуля**



Нарадзілася 17 красавіка 1865 года ў Лосдорфе (Аўстрыя). Паходзіла са знатнай польскай сям'і Ледухоўскіх, якая была вядома сваім патрыятызмам і рэлігійнасцю.

З ранніх гадоў дзяўчына была адчувальнай да людской беднасці і нядолі. Ва ўзросце 21 год уступіла ў кляштар уршулянак у Кракаве. У ордэне атрымала сярэднюю адукацыю і дыплом настаўніцы. На працягу многіх гадоў навучала ў гімназіі. З 1904 года выконвала абавязкі настаяцельніцы кляштара. У гэты ж час заснавала першую ў Польшчы марыйную кангрэгацыю для дзяўчат. Клапоцячыся пра студэнцкую моладзь, адкрыла інтэрнат для студэнтак і арганізавала рэлігійныя курсы. Заснавала польскія школы і дамы апекі ў Расіі, Фінляндыі і Швецыі. Займалася дабрачыннай дзейнасцю.

У ходзе такой дзейнасці ў яе нарадзілася ідэя стварэння новай манаскай сям'і, дастасаванай да актуальных патрэб выхаваўчай працы. Пасля заканчэння ваенных дзеянняў набыла невялікую нерухомую маёмасць у Пневах, якая стала генеральным домам уршулянак старых. Апостальская Сталіца зацвердзіла Кангрэгацыю.

Памерла Уршуля 29 мая 1939 года ў Рыме. У 1983 годзе была беатыфікавана папам Янам Паўлам ІІ, у 2003 годзе – ім жа кананізавана. У пяцідзясятую гадавіну смерці мошчы Уршулі былі перанесены з Рыма ў горад Пневы, у капліцу галоўнага манастыра жаночай манаскай кангрэгацыі Сясцёр Уршулянак Сэрца Езуса Канаючага.

**Да якіх святых звяртацца з асаблівай просьбай аб заступніцтве ў маі?**

*Св. Юзаф (1 мая), св. Філіп (6 мая), св. Станіслаў (8 мая), св. Беатрыс (10 мая), св. Зоф'я (15 мая), св. Андрэй (16 мая), св. Фелікс (18 мая), св. Рыта (22 мая), св. Уршуля (29 мая), св. Жана (30 мая).*

*Усе заўвагі і пажаданні дасылайце ў рэдакцыю або на электронны адрас аўтара рубрыкі pokachailo.lina@gmail.com.*







**Как выбрать день Ангела, если в календаре нет имени, которое носишь?**

*День Ангела, которым иногда называют именины, совпадает с днем литургического поминовения подвижника, чье имя мы носим.*

*Обратимся к Катехизису Католической Церкви: **«В крещении имя Господа освящает человека, и христианин получает свое имя в Церкви. Это может быть имя святого, то есть ученика Христова, прожившего свою жизнь в примерной верности своему Господу. Покровительство святого предлагает образец любви и обеспечивает заступничество. Имя, данное при крещении, может также быть выражением христианской тайны или христианской добродетели. "Родители, восприемники и священник должны заботиться о том, чтобы не нарекали имени, которое чуждо христианскому духу"» (2156).***

*Как мы видим, имя важно потому, что оно ведет к единению жизни с определенным святым. Святой, имя которого мы носим, вдохновляет нас на подражание его примеру. В то же время мы вверяем себя его молитвенному заступничеству. Святые становятся ходатаями и посредниками милостей для тех людей, которые носят их имя и которые им доверяются.*

*Если мы не можем найти в календаре наше имя, и именно под этим именем мы были крещены, то нужно посмотреть, какое имя может соответствовать нашему варианту. Например, славянскому женскому имени Богдана соответствует Феодосия, Феодора или мужские Феодот, Феодор, Феодосий.*

*В католическом церковном календаре есть 8 дней, в которые вспоминаются разные подвижницы с этим именем, а число подвижников-мужчин с этим именем в католическом церковном календаре приближается к 25. Можно найти день, который находится ближе всего ко дню нашего крещения.*

*Если разыскать имя все же не удалось, можно отмечать именины в праздник Всех Святых.*

ЖЫЦЦЁ КАСЦЁЛА Ў АБ'ЕКТЫВЕ



# Урачыстасці ў 50-ю гадавіну смерці с. Малгажаты Банась адбыліся ў Навагрудку

У касцёле Перамянення Пана, аб якім рупліва клапацілася с. Малгажата, адбылася ўрачыстая святая Імша ў інтэнцыі яе хутчэйшай беатыфікацыі. Эўхарыстыю ўзначаліў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч. У літургіі прынялі ўдзел біскуп Пінскі Антоній Дзям'янка, дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, шматлікія святары, манахіні, свецкія ўлады, жыхары навагрудскай зямлі і пілігрымы з розных месцаў Гродзеншчыны.

Сястра Малгажата – адзіная з супольнасці сясцёр у Навагрудку, якая засталася ў жывых. Астатнія 11 манахінь былі расстраляны гітлераўцамі 1 жніўня 1943 г.












# АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем мноства Божых ласкаў, нястомнай апекі святога Заступніка і Найсвяцейшай Маці, а таксама цеплыні і дабрыні ад людзей навокал і святла Святога Духа на кожны дзень душпастарскай паслугі.

*Рэдакцыя “Слова Жыцця”*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды Імянін і 25-й гадавіны біскупскай сакры перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай добры Бог адорвае Вас усімі ласкамі на доўгія гады, смутак няхай абмінае, а жыццё плыве ў радасці. Дзякуем Вам за працу, якую зрабілі ў нашай дыяцэзіі, і жадаем, каб Вы далей вялі нас да Бога!

*Са шчырай малітвай Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу, паважаным Ксяндзам Аляксандру Баклажцу і Аляксандру Сасноўскаму**

з нагоды Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў: здароўя, душэўнага супакою, усмешкі і шмат радасці, што выплывае са святарскага паклікання. Няхай Найсвяцейшая Маці заўсёды трымае Вас у сваёй апецы і шчодра адорвае сваімі ласкамі.

*Парафіяне з Навагрудка*

**Яго Эксцэленцыі Ксяндзу Біскупу Аляксандру Кашкевічу**

з нагоды Імянін шчыра жадаю шматлікіх Божых ласкаў, здароўя, радасці, сіл у цяжкія хвіліны жыцця і няспыннай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі.

*З памяццю ў малітве с. Ірына Златкоўская, генеральная настаяцельніца Супольнасці Сясцёр Дапаможніц Чысцовым Душам*

**Паважаным Айцам Віталію Бандаронку і Віталію Юркевічу, а таксама Брату Войцеху**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя віншаванні здароўя, шматлікіх Божых ласкаў, няспыннай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі і шчодрых дароў Святога Духа. Ад усяго сэрца дзякуем Вам за ахвярную працу ў нашай парафіі, цёплую ўсмешку і зычлівасць.

*Парафіяне і члены Апостальства дапамогі чысцовым душам са Слоніма*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Ёдзіку**

з нагоды Імянін жадаем Божага благаслаўлення, апекі Маці Божай і святога Заступніка, дароў Святога Духа, здароўя, радасці, сардэчных і шчырых людзей побач, а таксама бласлаўлёнага плёну ў душпастарскай працы.

*Апостальскі рух “Маргарытка” з пар. св. Яна Паўла ІІ у Смаргоні*

**Шаноўны Ксёндз Пробашч Юрый Жэгарын!**

Прыміце самыя шчырыя і цёплыя словы віншаванняў з нагоды Імянін! Асыпаем Вас праменьчыкамі сваёй любові, атуляем малітоўнай апекай і шчыра дзякуем Езусу, што даў нам такога цудоўнага святара! Хай Хрыстос моцна прытуляе Вас да свайго міласэрнага сэрца, асвятляе любоўю і ласкай, сцеражэ на кожнай жыццёвай сцяжыне, а Божая Маці працягвае руку дапамогі, падтрымкі як вернаму слугу Яе Сына.

*З вялікай любоўю і павагай парафіяне, Біблійнае кола, дзеці і моладзь касцела св. Міхала Арханёла ў Навагрудку*

**Паважаны Ксёндз Пробашч Валянцін Хвядук!**

Сардэчна віншуем Вас з нагоды Дня нараджэння і Юбілею. Праз нашы малітвы просім міласэрнага Бога, каб узнагародзіў Вас моцным здароўем, сілай і нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Богу і людзям. Няхай Маці Божая Чанстахоўская апекуецца Вамі і асцерагае ў цяжкія хвіліны. Шчасці Божа!

*Парафіяне з Моцевічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Ёдзіку**

з нагоды дня Імянін перасылаем букет сардэчных пажаданняў: Божага благаслаўлення на кожны дзень жыцця, сталай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі, шчодрых дароў Святога Духа, добрага здароўя, шчасця, поспехаў ва ўсіх справах, а таксама штодзённай радасці.

*Сям’я Тарасевіч М. з Гродна*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Адамовічу**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Ваш св. Заступнік штодзённа Вамі апекуецца, Маці Божая ахінае плашчом сваёй мацярынскай пяшчоты, усемагутны Бог шчодра адорвае сваімі ласкамі, а Святы Дух напаўняе сваімі дарамі кожны дзень Вашага жыцця і святарскай паслугі. Шчасці Божа!

*Вернікі з пар. МБ Міласэрнасці, Доцішкі*

**Паважанаму Ксяндзу Юрыю Саковічу**

з нагоды Дня нараджэння і Імянін перасылаем букет найлепшых пажаданняў. Няхай Пан Бог штодзённа адорвае Цябе сваімі ласкамі: моцным здароўем, душэўным супакоем, мудрасцю і поспехам у душпастарскай працы. Няхай на твары заўсёды яснее ўсмешка, вочы блішчаць ад радасці, а сэрца моцна б’ецца ад той любові, якая ў ім жыве. Няхай побач заўсёды будуць добрыя і зычлівыя людзі, а праца на Божай ніве прыносіць шчодры плён.

*Родныя сёстры Валянціна і Ядзвіга*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Лебядзевічу**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, бясконцай радасці, плёну з працы, шчодрых Божых ласкаў і апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны бязмежнай любоўю Бога.

*З малітвай і павагай Касцёльны камітэт і ІІІ Ордэн св. Францішка з Суботнікаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Саковічу**

з нагоды Юбілею і Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні, спалучаныя з малітвай. Жадаем, каб Пан Бог даваў здароўе і шчодра надзяляў сваімі ласкамі. Няхай Анёл ахоўвае Вас і пры любой небяспецы бярэ пад свае крылы. Дзякуем за ахвярную працу, шчырыя словы, мудрыя казанні і добрыя справы.

*З малітвай і ўдзячнасцю парафіяне з Карэлічаў і Варончы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Лебядзевічу**

з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні. Няхай здароўе будзе моцным на доўгія гады жыцця, у сэрцы заўсёды жывуць радасць, супакой, любоў і дабрыня, а нястомная энергія спадарожнічае Вам, прыносячы бясконцую радасць ад плёну святарскай працы. Няхай міласэрны Езус і Яго Найсвяцейшая Маці адорваюць Вас бязмежнай любоўю і асвячаюць кожны дзень жыцця. Мы вельмі ўдзячныя Вам за клопат пра наш касцёл, за ўтульнасць, супакой і цеплыню, што пануюць у яго сценах, за тое, што з усімі хваробамі і болем душы мы спяшаемся ў нашу святыню. Молімся за Вас і просім, каб добры Бог даў Вам шмат сіл і мудрасці на рэалізацыю Вашых планаў і задум. Дзякуем за павучальныя казанні, дабрыню і цярплівасць, а Вашым бацькам – за сына святара.

*З павагай і ўдзячнасцю Ружанцовыя колы з в. Суботнікі*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Віктару Захарэўскаму**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем нязгаснага запалу веры, моцнага здароўя, сіл і радасці. Няхай кожны Ваш дзень будзе асвечаны Божай любоўю і міласэрнасцю, а Маці Божая – заступніца святароў – ніколі Вас не пакідае ў цяжкія хвіліны жыцця. Шчасці Божа!

*Вернікі з Моцевічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Мацкевічу**

з нагоды Імянін складаем шчырыя віншаванні. Няхай радасць, супакой і Божая ласка напаўняюць Вашае сэрца, а побач будуць добразычлівыя і спагадлівыя людзі. Няхай Найсвяцейшая Маці апекуецца і абараняе Вас а Святы Дух адорвае шчодрымі дарамі.

*З малітвай Апостальства “Маргарытка” з пар. св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважанаму Ксяндзу Валерыю Спірыдону**

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні здароўя і дабра, мудрасці і цярплівасці, каб кожны дзень быў лепшым, чым папярэдні. Няхай добры Бог блаславіць Вас і падорыць сваю ласку, каб Вы цвёрда ішлі па шляху служэння Богу і людзям, а Маці Божая няхай няспынна Вамі апекуецца.

*З малітвай Апостальства “Маргарытка” з пар. св. Францішка Ксаверыя ў Гродне*

**Паважанаму Айцу Станіславу Садоўскаму**

з нагоды Імянін, Дня нараджэння і чарговай гадавіны святарскіх пасвячэнняў перасылаем сардэчныя пажаданні моцнага здароўя на доўгія гады, шмат сіл, стойкасці і радасці ад святарскай паслугі. Няхай добры Бог, які паклікаў Вас да святарства, узнагародзіць і ўзмоцніць, каб Вашае жыццё было напоўнена дабрынёй, любоўю і надзеяй! Няхай Святы Дух шчодра адорвае Вас сваімі дарамі, каб Вашы казанні і дапамога маглі ратаваць і радаваць людскія душы. Няхай Езус, якога Вы кожны дзень трымаеце ў сваіх руках, благаслаўляе Вас, а Найсвяцейшая Маці нястомна ахінае плашчом сваёй мацярынскай апекі.

*З малітвай і глыбокай павагай парафіяне з Поразава*

**Паважанаму Ксяндзу Мар’яну Хаменю**

з нагоды Імянін перасылаем самыя сардэчныя пажаданні здароўя, доўгіх гадоў жыцця, спакойных і ясных дзён у святарскім жыцці. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны Ваш дзень, а святы Заступнік нястомна чувае над Вамі.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Шылавічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Антонію Абухоўскаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем сардэчныя пажаданні: здароўя, шчасця, поспехаў у душпастарскай працы, апекі Маці Божай і людской добразычлівасці. Няхай Вашае жыццё будзе шчаслівым і бласлаўлёным, а Бог няспынна адорвае Вас сваімі ласкамі.

*ІІІ Ордэн св. Францішка і колы Жывога Ружанца з пар. Тэалін*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Севасцьяновічу**

з нагоды Імянін складаем найлепшыя пажаданні. Няхай кожная хвіліна Вашага жыцця будзе асвечана святлом Хрыста, а Маці Божая, якой Вы бязмежна давяраеце, заўсёды Вас атуляе мацярынскай ласкай і дапамагае выконваць волю Айца Нябеснага!

*ІІІ Ордэн св. Францішка і колы Жывога Ружанца з пар. Тэалін*

**Шаноўным Сёстрам Яніне Самойленка, Ядзвізе Альшэўскай, Ядзвізе Матыс і Яніне Малышка**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, штодзённага ўзмацнення ў веры і шчырай радасці ад кожнай пражытай хвіліны. Няхай міласэрны Бог адорыць Вас усімі сваімі ласкамі, а Найсвяцейшая Маці прытуляе да свайго мацярынскага сэрца і няспынна Вамі апекуецца.

*ІІІ Ордэн св. Францішка і колы Жывога Ружанца з пар. Тэалін*

**Паважанай Сястры Мар’яне Алешчык**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог адорыць Вас любоўю і супакоем, а Вашае сэрца заўсёды будзе адкрытым для ўсіх людзей. Няхай Марыя пастаянна Вамі апекуецца. Дзякуем за добрае сэрца і працу, якую Вы ўклалі ў дзяцей і моладзь нашай парафіі.

*З удзячнасцю і малітвай Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанай Сястры Ядзвізе Мяцеліца**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем самыя шчырыя віншаванні і пажаданні Божага благаслаўлення на кожны дзень жыцця, шчодрых дароў Святога Духа і нястомнай дапамогі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай тая праца, якую Вы штодзённа выконваеце, прыносіць Вам задавальненне і радасць, а тым, хто знаходзіцца побач, – стане бачным знакам Божай любові і дабрыні да іх. Шчасці Божа!

*Вернікі з пар. св. Роха ў Грандзічах*

**Паважанаму Ксяндзу Мар’яну Хаменю**

з нагоды Імянін складаем самыя сардэчныя пажаданні. Жадаем моцнага здароўя на доўгія гады жыцця, апекі Маці Божай і дароў Святога Духа. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, дапамагае пераджыць усе цяжкасці. Няхай Ён узнагародзіць Вас за працу і ўзмоцніць у святарскай паслузе. Дзякуем за адкрытае сэрца і адданую службу Богу і людзям.

*Удзячныя парафіяне з Шылавічаў*

**Паважаным Ксяндзам Станіславу Лабану і Аляксандру Лебядзевічу**

з нагоды Імянін складаем сардэчныя пажаданні доўгіх гадоў жыцця ў добрым здароўі, шчасця, цярплівасці ў святарскай працы, шчодрых дароў Святога Духа, усмешкі на кожны дзень, а на час буры – рознакаляровай вясёлкі. Няхай Бог заўсёды Вас благаслаўляе, а Маці Божая і святыя Заступнікі маюць у сваёй апецы.

*З памяццю ў малітве “Маргарыткі” і парафіяне з Беняконяў*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Раманоўскаму**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, штодзённай радасці і добразычлівых людзей побач. Няхай кожны Ваш дзень будзе асветлены святлом Святога Духа, а праца на ніве Пана прыносіць шчодры плён.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Гродна-Паўднёвага*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Баклажцу**

з нагоды Імянін складаем букет сардэчных пажаданняў: здароўя на доўгія гады, аптымізму, супакою ў сэрцы, а таксама цярплівасці на святарскім шляху. Няхай Святы Дух шчодра адорвае Вас сваімі дарамі, а Найсвяцейшая Маці і святы Заступнік ахінаюць Вас сваёй апекай заўсёды і ўсюды. Ад усяго сэрца дзякуем Вам за працу ў нашым касцёле, абвяшчэнне Божага слова, добрае сэрца і клопат аб парафіянах і святыні.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Крамяніцы*

**Паважанаму Ксяндзу Аляксандру Ставецкаму**

з нагоды Імянін перасылаем сардэчныя пажаданні здароўя на доўгія гады, шчасця, поспехаў, апекі Найсвяцейшай Маці і святога Заступніка. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі. Шчасці Божа!

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Германішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Станіславу Лабану**

з нагоды Імянін перасылаем шмат сардэчных пажаданняў здароўя, радасці, душэўнага супакою і добрых людзей побач. Няхай Пан Езус прытуліць Вас да свайго Найсвяцейшага Сэрца і адорыць благаслаўленнем і ўсімі ласкамі на доўгія гады. Шчасці Божа!

*З памяццю ў малітве члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Беняконяў*

**Паважанаму Ксяндзу Станіславу Пытэлю**

з нагоды Імянін ад усяго сэрца жадаем шчасця, радасці на кожны дзень жыцця, стойкасці ў святарскай паслузе, моцнага здароўя і толькі добразычлівых людзей побач. Няхай святы Заступнік заўсёды апекуецца Вамі і ўзносіць свае малітвы за Вас да Божага трона.

*Члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Васілішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Паўлу Шчарбіцкаму**

з нагоды Дня нараджэння жадаем добрага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, душэўнага супакою. Няхай радасць заўсёды Вам спадарожнічае, а цярплівасці і стойкасці хопіць на доўгія гады адданай душпастарскай працы. Жадаем, каб Вас абмінаў смутак, а жыццё праходзіла ў радасці. Няхай Маці Божая асвячае Ваш шлях промнямі сваёй міласэрнасці, а побач будуць добрыя і зычлівыя людзі. Ад усяго сэрца дзякуем за тое, што Вы з намі, за навуку, якую абвяшчаеце на святым алтары, за шчырую службу Богу і людзям, адкрытае і вялікае сэрца.

*Сям’я Ялгоўскіх, дзеці, моладзь, міністранты, удзячныя парафіяне са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Аляксандру Лебядзевічу**

з нагоды Імянін жадаем усіх Божых ласкаў, нястомнай апекі Маці Божай, шчодрых дароў Святога Духа, разважлівасці і моцы ў выкананні святарскай паслугі. Жывіце ў здароўі і радасці, а сэрца няхай будзе напоўнена супакоем і любоўю.

*Суполка “Equipes Notre-Dame” з Суботнікаў*

**Паважанай Сястры Ірыне Барцэвіч**

у сувязі са смерцю любімай мамы Яніны выказваем словы шчырага жалю і спачування. Яднаемся з Вамі ў малітве, просячы Пана, каб як мага хутчэй прыняў яе ў сваё Валадарства. Няхай міласэрны Бог дадасць Вам моцы, каб пераджыць цяжар страты блізкага чалавека.

***Вернікі з пар. св. Міхала Арханёла ў Смаргоні***

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Павел Салабуда;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія;** год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com.; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 2229; тыраж 5100; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная